РАІСА БАРАВІКОВА

# Слухаю сэрца

ВЕРШЫ І ПАЭМА



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1978

* * *

Мой дзень, мой клопат —
пачынайся з песні,
дзе словы,
як свавольны вецер весні,
ірвуць не струны звонкае гітары,
а сэрца шматгалосую струну.

# ВЕЧНАЕ ЮНАЦТВА

*Уладзіміру Мартынавічу Азіну*
*прысвячаю*

Не шкадуе час сваіх пячатак.
Расцвітае бэз усцяж вясною.
Ён — юнацтва нашага пачатак,
а яно, далёкае, са мною.

Вёрсты і з баямі пераходы,
ды вясною бачыў я наяве —
па Дзвіне далёкай параходы
праплывалі ў бэзавай аправе.

Хай ляжу цяпер пад Перакопам,
а юнацтва вечнае са мною,
конь мой праз гады імчыць галопам
і цвіце вянкамі бэз вясною.

# СВІТАННЕ Ў ПАРКУ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Галінка трапяткая ўпала,
як недапісаны радок.
Сад вераснёвы і Купала,
лісця зжаўцелага грудок.

І ля фантана, што за сцежкай,
таксама восеньскі агонь,
русалка пырсне там не ўсмешкай,
а плачам тоненькім на скронь.

Забаваў летніх шчабятуха,
як многа слёз яшчэ пральле!
Паблізу незнаёма глуха
аб камень Свіслач хваляй б'е!

І я прыцішваю дыханне...
Там, дзе лісця ляжыць грудок,
Купала шэпча на світанні
свой недапісаны радок.

## МІКРАПАЭМА ТРОХ ДАЖДЖОЎ

Напачатку толькі прадчуванне —
мроі летуценнае крыло.
І яшчэ далёка да расстання.
І яшчэ сустрэчы не было.
Першы дождж надзвычай баязліва
лакіруе дахі і слупы,
ён, як хлопчык, радасна шчаслівы,
і, як поўня досвіткам, сляпы.

А пасля прыходзіць адзінота,
шчасця ненадзейнага вянок,
як ратуе ў час такі работа
і адзіны клопат мой — сынок!
Дождж другі багаты, сакавіты,
падстаўляй далоні, пі нагбом,
толькі прарывае ўсе арбіты
сэрца неспатоленага гром.

У люстэрка глянеш — пашкадуеш!
Ах, якія ўспомніш ты гады!
Нечакана з болем прыраўнуеш
некага да слова «малады».
Трэці дождж абложысты, пануры,
вечнасці загадкавы прамень.
Ён як песня, песня на хаўтурах,
ён як доўгі, неадступны цень.

# КАЛІНАВІК

Хаду калінавіка чую,
ідзе з барвянай галавой.
Пад небам зорным заначуе
з сяброўкай вернай палявой.

Адчуе млосць у дужым целе,
у кроў ударыць буйны хмель.
Каліна белая рассцеле
яму гарачую пасцель.

Халодным вокам поўня гляне,
пачуе ў полі лёгкі ўздых,
то не трава ў жалобе вяне,
то шэпт каханкаў маладых.

Азвецца ноч шалёным звонам,
струной напятай загудзе,
з каліны белая карона
у травы спелыя ўпадзе.

Калі ж прачнуцца на дасвецці,
зноў пойдзе ён сваёй хадой,
услед яму заб'ецца вецце
каліны горкай, маладой.

## ТОЙ ГАНАК

Той ганак у засені квецені,
з трох яблынь маленькі садок,
той дворык старанна падмецены,
жыцця майго першы выток.

Адтуль у сукенцы баціставай
па модзе вясковых майстрых
пайшла я дарогай імглістаю,
стрымаўшы расстання уздых.

Удача мне зоркай свяціла,
калі ж наплывала імгла:
мяло, падмінала, круціла,
а я — усё роўна жыла!

Мне мара хусцінкай махала,
а песні нашэптваў аер,
я шчасце сваё майстравала
алоўкам на стосе папер.

Гады незаўважна міналі,
жыццё разматала клубок!
З далёкай вясны выплывалі
той ганак, той двор, той садок.

О, сэрца, як часта шчымела!
І бачу я зноў, як тады,
мне мара хусцінкаю белай
махае праз дні і гады.

## ЗІМОВЫ ЭЦЮД

Зіма мінаецца, чаму ж
на сэрцы боязна-трывожна,
па белым снезе асцярожна
бяжыш ад холаду і сцюж?
Пачую хутка капяжы...
А мне мілей за ўсё сумёты,
і ціша ранішняй дрымоты,
і лёгкі смутак на душы.
Нібы падбелены садок...
Зірні ў акно і схамяніся,
капрызна просіць: «Пасміхніся!»
Там сына тоненькі слядок.
Зляціць усмешка, і крылом
заб'ецца ў шыбу птушка сонна.
Як непаўторна і будзённа
зямля глядзіцца пад ільдом.
Пагляд да строгасці прывык,
і завывае вецер глуха...
А ты душу сваю паслухай,
там пра вясну пяе кулік.

# ВЯСЁЛКА

Як вартаўнік, што дбае ўвішна
пра свой будзённы, сціплы пост,
у садзе, над маёю вішняй,
дугой узняўся цуда-мост.
Па небу разлягаўся спора,
абмацваў ззяннем мурагі,
нібы шукаў сабе апору,
нібы выгледжваў берагі.
Ён разрастаўся ў паднябессі
усё выразней і ярчэй,
так набірае сілу песня,
з уздыхам новым — гарачэй!
Яшчэ з акна была я рада
яго з'яўленне прасачыць,
а ён ужо ля далягляду
гірляндай квеценнай зырчыць.
Ён на вачах яднае пырскі
у пералівістую ніць,
нібыта хоча кедр сібірскі
з маёю вішняй парадніць.
Звязаць аднолькавым настроем,
злучыць у пошуме адным
дзве супрацьлегласці ў прасторы
спрабуе мост перакідны.
Але, відаць, не так і проста
дзве супрацьлегласці з'яднаць,
дадаўшы вішні тонкай росту,—
у кедра велічы адняць.

Бо праз імгненне з пералівам
ён бліскавіцай дагарэў...
А вішня ў сне стаіць шчаслівым
і чуе побач кедра спеў.



Не давайце мне думаць пра лета,
затрымайце гадзінніка ход!
Меркавала, што сонцам сагрэта,—
абярнуўся завеяю год!

З тых, шчаслівых, ён самы няўдалы,
ды па днях я яго разбяру,
хоць пакінуў мне снег падталы
толькі леташнюю кару.

Я прайдуся забытаю сцежкай,
кожны міг перажыты ўяўлю
і рассыплю па дрэвах усмешкі,
нібы зерне сухое ў раллю.

Я забуду пра вершы, пра песні,
пра вясёлага месяца рог!
Хто сказаў вам, што свет гэты цесны,
маю волю ніхто не запрог!

Вось ляціць яна зоркаю ў ночы,
не злавіць, не схапіць, не дагнаць!
І пралесак ліловыя вочы
наўздагон ёй зайздросна глядзяць.

## НАЧЛЕГ

Прытаміўся стрыножаны конь
і прылёг адпачыць на узгорак.
Разгараецца ў небе агонь —
залачонае вогнішча зорак.

Адзінокі, суровы пастух,
нібы прывід маўклівы паўстане.
Вось апошні агеньчык патух
у сяле, што ляжыць за туманам.

Ды чуваць ля пясчанай касы,
нібы хвалі далёкія ў моры,
невядомыя мне галасы
у нябачным вызвоньваюць хоры.

І ляжаць нерухома камлі,
не шуміць растрывожаны колас,
толькі ўпэўнена я, што з зямлі
мне чуцён той пранізлівы голас.

Вырываецца з самых глыбінь
неабдымнага, мёртвага мора,
і хвалюе бязмежнасць вышынь,
і нябачным вызвоньвае хорам.

# З бабуліных песень

* * *

Вось і стала я разлучніцай.
Сорам вочанькі заслаў.
Лепш пайшла б ужо за ключніка,
за замкамі каб трымаў,

за варотамі дубовымі,
на ігрышча не пускаў,
кулакамі каб пудовымі
раз у тыдзень перазаў.

Мо тады б і не глядзела
на суседа Кудзелю.

* * *

— Ой, адкуль ты, дзеўка, родам?
— Папытай у таткі.
Не пайду з табою бродам,
бо няма там кладкі.

— Гавары са мной, не грэбуй.
— Я не гаваркая.
Не пайду з табою грэбляй,
сцежка там крутая.

— Як адна ўжывешся з доляй?
— Можна і без ласкі.
Не пайду з табою полем,
там пясочак гразкі.

— А ў мяне ж і конь агня́вы...
— Адчапіся, хлопча!
Бо даўно такі ж чарнявы
долю маю топча.

* * *

Я бялізну мыла, потым паласкала,
з ветрам размаўляла:
— Ой, ляці, мой ветрык, можа, ўбачыш
сына,
дык скажы: сняданак год каторы стыне...

Я бялізну мыла, потым паласкала,
слёзаньку пускала.
— Ой, каціся, слёзка, па густой травіцы,
можа, недзе сын мой прыпадзе напіцца?..

Я бялізну мыла, потым паласкала,
долю ушчувала.
— Ой, каціся, рэха, па зялёным гаю,
мо пачуе сын мой, як яго гукаю?..

## ШЛЯХ-ПУШЧА

Ён і араў, і паляваў,
быў рослы, дужы і відушчы,
той чалавек, які назваў
мясціну гэтую Шлях-Пушчай.
З'явіўся тут упершыню,
палюючы за дзікім зверам,
упадабаў ён цішыню
і пушчы векавой паверыў.
Паставіў хату, і ўзяло
пачатак свой з сівых стагоддзяў
Палесся мілага сяло
у хараству лясных разводдзяў.
Сюды ідуць на вадапой
вышыняў срэбных далягляды,
і дрэвы дораць на распой
свой сок бярозавым паглядам.
А паспрабуй яго, глыні,
і назаўжды ўтрымае памяць
Шлях-Пушчы мілае агні
і далі верасовай замець.
Азвецца крыкам дзікі птах
на дахах, змочаных расою...
Пабачу ў небе Млечны Шлях,
скажу: «Шлях-Пушча прада мною!»

* * *

Зіма, зіма, сыпні калючым снегам
на сон маўклівых ледзяных галін.
Рассыпся па палях з'інелым смехам,
азораная светласцю хвілін
тых самых першых, ясных на дасвецці
у эпіцэнтры смутку і глушы...
Мне цяжка зразумець, чаму на свеце
так мала адзіноты для душы.

# ВОСЕНЬСКАЕ

*Памяці Мікалая Рубцова*

Трывожаць неба на світанні
кліны самотных жураvoў,
а ты
не вер у адміранне
лістоты шумнай ля ставоў.

У ценю грушавых прышчэпаў
бабуля з ношкаю ідзе,
за ёю восень неадчэпна,
нібыта цень яе,
брыдзе.

Але як доўга і ласкава
глядзіць старая з-пад рукі,
дзе асядае пыл гаркавы
на залатыя мурагі.

Глядзіць спаволеным паглядам
на жураvoў, на ціхі плёс,
і восені, здаецца, рада,
удзячная за сціплы лёс.

Хоць недзе побач час апошні,
хоць восень дыхае журбой,
яна ідзе па колкай пожні
і бачыць сонца прад сабой.

Таму не вер у адміранне
лістоты шумнай ля ставоў,
праводзь без жалю на світанні
за далягляды жураўоў.



Імчыць цягнік...
Вясна ў прасторы гулкай.
Ужо далёка Станцыя Снягоў.
Я ведала — адразу за чыгункай
кранецца лёд сумётных берагоў.
Не трэба слоў, узнёсласці, пытанняў,
здзіўляцца развучылася вясне,
але чаму з усмешак і жаданняў
жанчына нараджаецца ўва мне?!
То трапяткім лістком яна заб'ецца,
то рэхам разбяжыцца праз лясок,
то страпянецца пудкай птушкай сэрца,
то раптам слёзы, як бярозы сок.
Яна жыве, прасцершы ў свет далоні,
ёй саступае далеч у красе,
і толькі жылка тонкая на скроні
адлічвае турботы пакрысе.
Ды што яны! Вясна ў прасторы гулкай,
ужо далёка Станцыя Снягоў.
Я ведала — адразу за чыгункай
кранецца лёд сумётных берагоў.

## Я ПАМЯТАЮ...

Я памятаю, там раслі лілеі,
і дзьмухаўцы бухматыя штогод
сваёю легкавейнаю завеяй
на ранку сустракалі параход.
Ён праплываў...
Стаяў язміну прысмак,
я не чакала пошты, ні гасцей,
ды брала крыўда, злосць за тую
прыстань,
і сэрца маё білася часцей.
Чым растлумачыць прагу далячыні?
Той параход быў смуткам і бядой,
ён слаў гудок, і рэха ў сіняй стыні
кружыла доўга побач над вадой.
І я клялася...
Будучай вясною,
як сыдзе лёд, пакінуць назаўжды
і дзьмухаўцы, і прыстань за сабою,
каб толькі госцем наязджаць туды...

Ільды сышлі.
Далёка тая прыстань,
а я плыву, вяртаюся ізноў
назад у лета, дзе язміну прысмак,
у белую завею дзьмухаўцоў.

# РАЗВІТАЛЬНАЯ ПЕСНЯ

Дажджы змываюць з лісця пазалоту,
барвовым дымам дрэвам не цвісці,
песню развітальную, лістота,
праспявай і ў вырай адляці.

Шэрая зязюля не кувае,
ходзікі даўно спынілі ход,
і ўсё роўна лісце ападае,
падае, ляціць за годам год.

Карабель касмічны на арбіце
адлічыў бясконцасці віток.
Дрэвы, раскажыце, падкажыце,
дзе жыцця бясконцага выток?

Каб змагла я, вечна маладая,
з жалем не лічыць апалых год,
лісце ападае, адлятае,
ходзікі наладжваюць свой ход.

Не шкадуйце, дрэвы, пазалоты,
надышла дажджлівая пара!
Песня развітальная лістоты
рэхам увасобіцца ў барах.

* * *

Сына кучаравая галоўка
кожны раз нагадвае вясну,
ды чаму расчэсваю нялоўка
золата вясновае са сну.

Памяць варушыць, відаць,
не варта!
Пасмачкі бялявыя чашу,
а вясна настойліва і ўпарта
як калісьці просіцца ў душу.

## У ЧАС ПРАГУЛКІ З БАЦЬКАМ

Калі зайграе марш вайсковы,
хаду супынім неўзнарок.
Мой бацька, быццам выпадкова,
кране нервова каўнярок.
Расшпіліць гузік, нібы цеснай
кашуля стала ў гэты міг.
Плыве мелодыя аркестра,
яе так многа на дваіх.
Яна святочнасцю абвее,
пасля жалобаю дыхне
і з апантанасцю завеі
галінку кволую сагне.
Ды вось ужо за паваротам
нам чутны музыкі прыбой...
— Пад гэты марш калісьці рота
мая ішла ў свой першы бой!
З нас кожны думаў: давядзецца
дажыць да пераможных дат,—
прамовіць бацька, сцепанецца,
нібыта ўбачыць тых салдат
ён у страі, за паваротам...
Далёка музыка гудзе,
а бацька бачыць сваю роту,
яна ў свой першы бой ідзе.
Ідзе ўсё тая ж, як калісьці,
ды не лягчэе на душы,
бо побач доўга кружыць лісце
над абеліскам ля шашы.

## ПАРТЫЗАНСКАЯ МАДОННА

Ужо гадоў пражыта многа.
Вясна трыццатая на ўзводзе!
Хоць адзначала Перамога
у час радзін маіх двухгоддзе.
Ужо і ў дворыку зацішным,
парослым бэзам і язмінам,
як птушка, ціўкаю залішне
я над сваім маленькім сынам.
Часамі жалюся суседзям,
пытаю ў іх бездапаможна,
як прывучыць мне непаседу
да слова строгага «няможна»!
Як саўладаць парою з сынам?
Ды самым верным мне падказам
прыходзіць з даўнім успамінам
карціна даўняга паказу.
Карціна золкавага тона,
плён мастакоўскае работы,
дзе Партызанская Мадонна,
як сімвал матчынай турботы!

Сястра мая, з якога болю
ты выцінала калыханкі,
калі, журботная, ў прыполе
гайдала сына ля зямлянкі.
Калі апоўдні ён з калыскі
сваім паглядам паркалёвым
сачыў, як промень жвавы бліскаў

на штыкавым лязу сталёвым.
Той штык прымаў твой сын
за цацку,
а дзе знайсці табе спагады
імгненнем тым, калі знянацку
свінцом сляпіла далягляды.
Калі Алёшкі і Іллюшкі
у бессмяротнасць адплывалі,
ты сына белыя пялюшкі
на бінт, гаротная, ірвала.
І блаславіць сябе прасіла,
калі займалі кругавую,
у той,
што думала
пра сына,
які пайшоў у штыкавую...

Дык як жа мне прасіць парады,
дык як жа жаліцца суседзям,
сачу суцішаным паглядам
за трохгадовым непаседам.
Сачу з пяшчотаю бяздоннай
і выцінаю крык здзіўлення...
У Партызанскае Мадонны
прашу я, маці, бласлаўлення!

## ВЯСЁЛАЯ ЗІМА Ў ЛОШЫЦЫ

Паляцелі снежныя арэлі...
Чуеце, то звон, то дробны смех.
Ён з галін злятае заінелых
бомамі душы маёй у снег.

Лошыцы знаёмыя карнізы
лебядзіным свецяцца крылом.
Ах, якія кветкі там, унізе,
расцвілі і б'юць здаля чалом.

А на дахах, верце, без падману,
мосцяцца шкляныя галубкі.
Сучаць яны ніці, як з туману,
зматваюць у снежныя клубкі.

Паабапал вуліцы паселі
ледзянога царства кавалі,
выбіваюць з жамчуговай белі
пацеркі, маністы, медалі.

Павядзіце здзіўленым паглядам:
снегавік з жалейкай ля варот,
нездарма Снягурка сёння рада
раскруціць вясельны калаўрот.

Сыпануць снягамі нам на ўцеху,
гэта ўжо адчула я сама —
пырснула на твар бадзёрым смехам
Лошыцы вясёлая зіма.

## МАК

Нібыта ішла па вуголлі
цёмнаю ноччу жанчына.
Не лашчыла плечы голле,
ног не калола шыпшына.
Прысела, каб рукі прыкласці
да твару, што гнуткія лозы.
Мо прыгадала шчасце?
Можа, схавала слёзы?
А след яе ў золкім абшары
высвечваў агністай дугою,—
мо сэрца гарэла пажарам?
Мо вусны пякло тугою?
Схілілася долу ўтрапёна,
як першай зары чараціна —

задыхала часта, натхнёна
жару жывога карціна.

Пытанняў маіх прычына
не мае цяпер значэння...
Макам ірдзела жанчына,
а гэта вышэй тлумачэння.

## ЧЫРВОНАЕ КАФЭ

Кафэ чы́рвонае, як барва,
на твары водбліск ад слязы.
Ты мне налі што-небудзь, бармен,
як і ў мінулыя разы.

Я гэтым вечарам пярсцёнкі
зняла з рукі і без прыкрас
гляджу ў акно, і месяц тонкі
мне пасміхаецца ў адказ.

Зазначу для сябе, што схожы
ён з чалавекам тым адным,
што стаў цяпер толькі прахожым,
навошта ж думаю аб ім?

Вось і цяпер уся ў чаканні,
мо выпадкова ён сюды
са мною прыйдзе на спатканне,
згадае даўнія гады?

За хмаркай месяц тонкі гіне,
знаёмых крокаў не чутно,
і падае барвяны іней
са сцен у белае віно.

# ПАРТЫЗАНСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Часоў ваенных фотаздымкі!
Адношу да адбіткаў тых
вось гэта фота, дзе ў абдымку
са зброяй — пара маладых.

Не падбаўлялі ў чаркі зелля,
дзяўчаты не вілі вянкоў,
і ўсё ж было, было вяселле,
і матчын плач, і стук падкоў.

Хоць і была ім куля свахай,
ды заручаў на вернасць сцяг!
Каханне неслі не на плаху,
ішлі ў гадоў сваіх прасцяг.

Не абвівалі стан карункі,
шаўкі не бралі ў свой палон,
ад партызан ім падарункам
быў узарваны эшалон.

Замiж бліскучай завушніцы
яшчэ звінеў нядаўні бой,
на вэлюм падала з ігліцай
каманда зычная: «Адбой!»

Успыхвала ракета знічкай
і ападала ў верасы,
звінелі, нібы пераклічка,
усцяж гармоніка басы.

Калі прыходзяць маладыя
цяпер да плошчаў Перамог,
дальбог, басы бушуюць тыя
вясельнай музыкай ля ног.

## ЛЯ КАРЦІНЫ МІХАІЛА ЭЛЬВІРА АНДРЫЮЛІ «ГУСЛЯР»

Што ўсхвалявала цябе, рыцар,
чаму стаіш, нібы шкаляр,
ля рэчкі пад вярбою ніцай,
дзе хвалям жаліцца гусляр?

Кране струну, пасля другую,—
пясок з-пад каменя сплыве.
З якою доляй ён вандруе,
якую долю ён заве?

Яму ты, рыцар, не таварыш!
Пра гэта ўздумаеш пасля.
Цяпер стаіш, стаіш і марыш
пад спеў жалобны гусляра.

Смугой заслаўся бераг вохкі.
Прыціх вады рачной абрус.
Які пранізлівы і крохкі
твой позірк ясны, беларус!

Сплывае песня з губ засмяглых...
О, светлых дзён маіх зямля!
За што табе той стогн працяглы,
Той плач надрыўны гусляра?

## З СЕРЫІ «БЕЛАРУСКІЯ МАЛЮНКІ»

«А і вялікі жэ ж ты дурэнь, як паглядджу: нічогочкі ты такого нясмысліш!
— Не йшча, нясмыслю...»

*З надпісу на карціне*

— Нясмыслю йшча...— і позірк долу
цнатліва хлопец апусціў...

Хто ведае, магчыма, з поля
яна прыйшла, бо позірк цвіў
рамонкай белаю і мятай,
духмянай мятай палявой,
яму ўцячы б, ды як падмяты
маланкай,
стаў ён перад ёй.

Яны ўдваіх стаяць ля студні.
Яна — нястрыманы парыў
(хоць дзень, здавалася б, і будні),
ён галаву сваю схіліў,
зацяўся стоенай спружынай...
Яна бярэцца за вядро,
і шчокі свецяцца ажынай,
і полымем гарыць нутро.
— Ды ты нічогочкі нясмысліш...—
і шэпт у роспачы аціх,
а ён падумаў: «Што за вішні
ля плота, пэўна, можна з іх
йшча надавіць багата соку...»
І папярхнуўся, і знямеў...

Яна смяялася далёка.
Ён утрапёна палымнеў...

# У ЛЕСЕ

Дажджом размыла каляіны,
і пад нагою «хлюп» ды «хлюп»...
Падпёр бухматыя яліны
паважны тэлеграфны слуп.

Глядзіцца ён інтэлігентам
у непрыбранасці лясной;
схаваўся, нібы пад брызентам,
вясёлы рыжык пад сасной.

Расой высвечваюць прагалы,
і дождж паблажліва аціх,
і я іду сабе памалу,
напружыўшы свой чуйны слых.

І, можа, толькі прыдалося
за павароткаю здаля —
нібыта воблака ўзнялося
і закрахтала там зямля.

Я з асцярогай крокі сцішу,
вакол жа ў лесе — ні душы!
Хто ж елку сонную калыша
сярод прытоенай глушы?!

Заварушыўся і прыўзняўся...
О, божа, гэта ж лесавік!
А ён спакойна запытаўся:
— Ты мой не брала чаравік?!



Вяртаюцца з далёкіх паплавоў,
абуджаныя сонечнаю песняй,
і вёска сустракае журавоў,
знаёмае «курлы» у паднябессі...

Б'юць па асфальту ў Мінску капяжы,
выходжу на прагулку разам з сынам,
і ён, маленькі, просіць: «Пакажы
жураўліка жывога ў небе сінім».

Ён пазірае прагна ў вышыню,
далоньку сціну цёплую ў знямозе,
зманю свайму дзіцяці ўпершыню,
сказаўшы, што жураўлікі ў дарозе.

Няўжо мне весці сына ў заасад?
На скронь ад гэткай думкі ляжа іней,
а ён крычыць упарта ля прысад:
«Жураўліка хачу я ў небе сінім».

І ўскрыкну нечакана: «Мой сынок! —
(Над намі самалёт як паратунак) —
Глядзі хутчэй, вунь белы бацянок
плыве над веснавым разводдзем вулак».



*Н. В.*

Наталля, Наталі, Наташа...
Я маршам лесвічным імчу.
Як карабель, кватэра ваша
пад белым ветразем ўваччу!

Вятры яго не раз гайдалі,
і як жа ахалі «маржы»,
калі святлелі раптам далі
ад светласці тваёй душы.

Калі гарэзлівы і жвавы
прамень з'яўляўся залаты
эмблемай велічнай дзяржавы,
якою уладарыш ты!

Дзяржавы, дзе спакой і шчасце,
дзе проза одаю гучыць!
Дзе словы, як глыток прычасця,
ў бясконца цяжкім — песняй жыць!

## БЯРОЗЫ АЙЧЫНЫ

Сумёты снегу, смутак і мароз.
Ляжыць, як здзірвянелая, раўніна.
Каму прызнацца ў вернасці павінна
я — памяці ці святасці бяроз?!

Сляды, сляды...
                    Па ўсёй маёй душы
і радасці, і горычы пячаткі.
Бярозы, як свавольныя дзяўчаткі,
цалуюць прыдарожныя крыжы.

І нават той, хто шчодры лёс знайшоў
у час свайго вірлівага юнацтва,
адчуе непазбежнае сваяцтва
з прыціхласцю засмучаных крыжоў.

Надыдзе час, я памяць абуджу,
яе застаўлю круг рабіць за кругам.
Як гаспадар каня світальным лугам,
яе па днях пражытых паімчу.

І кожны зноўку пераЖыты дзень,
паўтораная кожная хвіліна
беспамылкова да бяроз Айчыны,
нібы да згадкі светлай, прывядзе...



Жнівень адплывае на вясёлцы,
кепачкай махае залатой,
і брыдзе панура па прасёлцы
верасень з унучкаю слатой.

Мне пара ў дарогу гэтаксама,
там, куды не поле перайсці,
зрання выглядае мяне мама
і чакае лодка на Друці.

Прытулю да сэрца я матулю,
буду бачыць лодку прад ваччу,
пасябрую з восеньскай зязюляй
і інакшай долі не схачу.

Абрывае верасень лістоту,
гронкі пераспелыя рабін,
ты кідай, стары, сваю работу,
мне лісцвяны водгалас пакінь.

Адкувае шэрая зязюля,
дык лісцё адлічыць мне гады...
— Што ж ты плачаш поначы, матуля,
чуеш, як шумяць яшчэ сады?!

## РУСАЛЧЫНА КВЕТКА

Яшчэ няма яе, бялюткай...
Ёсць толькі завязі штуршок.
А ўжо ляжыць на хвалі хуткай
Пялёсткаў тоненькі штрышок.

І калі з'явіцца гарлачык,
дальбог, пабачу й здалёк —
над ім з русалкаю у мячык
гуляе лёгкі матылёк.

## ПЛОШЧА ЯКУБА КОЛАСА

Вецер песціць і палошча
кроны голыя галін,
сустракае мяне плошча
смуткам ранішніх хвілін.
Сакавік адліжна-хліпкі,
пад нагамі ледалом,
прыдалося — плача скрыпка
недзе побач, за вуглом.
Неба весняга пялёстак,
нібы дотык мілых рук,
успамінам ля кіёска
працінае сэрца гук.
Страпянуся, нібы ліпка,—
месца колішніх сустрэч
апявае сёння скрыпка
і імкліва гоніць прэч.
Толькі будуць успаміны
тлець вугольчыкам датла,
правіць скрыпка імяніны
прамільгнуўшага святла.
Снег пад боцікамі ліпкі,
а іду, што па рацэ...
Кожны ранак плача скрыпка
у Сымонавай руцэ.

## ВОСЕНЬ НА ПАЛЕССІ. 1974

Чацвёрты тыдзень цешыцца залева,
няспынны дождж абрынуўся бядой.
Вады нагнала сёння па калена,
а заўтра хаты счэзнуць пад вадой.

Рыхтуюць лодкі і плыты збіваюць
маўклівыя здавён палешукі,
а побач хвалі морскія гуляюць,
раўняюць з акіянам раўчукі.

Ды гоніць прэч, на выган іх залева,
ды коціць у бязлітаснай красе,
куды ні глянь — вада! — булькоча злева
і справа хвалі шумныя нясе.

Зрывае, выкарчоўвае прысады
раз'юшаны і злосны вадаспад,
плывуць стагі, плывуць за далягляды,
і немагчыма іх вярнуць назад.

Куды ж вы, рэк тутэйшых вартавыя,
паклон якім нясеце берагам? —
Слупы, як паралельныя прамыя,
плыты, нібы пункціры тэлеграм.

І ўсё часцей у позірку нудота,
і ўсё мацней няўсцішны гоман хваль,
нібыта коціць мора Герадота
з глыбіняў часу свой дзевяты вал.

# ДА ЛАСТАЎКІ

Дзён маіх самотных шчабятуха,
ты былых мне песень не спявай.
Крылцамі не біся ў шыбку глуха,
не заві ў спавіты жалем май.

Быць хачу шчасліваю без меры,
дык ляці ў далёкія палі,
каб змагла я сёння на паперы
песню тваю ў словы пераліць.

Мілая, падслухай адвячоркам
і прышлі з вятрамі мне здалёк
калыханку матчыну з падворку,
дзе цвіце блакітам васілёк.

Любая, не буду я ў дакоры
за тваю вясну, за весялосць,
як узыдуць толькі хлебазоры,
ты вярні мне з песняй маладосць.

Тую, што без жалю, без расстанняў,
каб на днях вясёлых варажыць!
Вось хапіла б толькі мне дыхання
маладосць нанова пераражыць!

## САЛАЎІ

Луг Зялёны, хто расквеціў
твае сцежкі на ўскраі?
Недаўмецца,— можа, вецер,
мо начныя салаўі
свой наладзілі гармонік,
заглушылі звон расы,
і варушыць вусам дворнік:
— Скуль такія галасы?
Мо вясны маёй свісцёлкі,
можа, песню хто завёў...
І мяце, мяце мяцёлкай,
закаханы ў салаўёў.

Можа, выйсці мне на ганак
ці спыніцца ля дзвярэй?
Не інакш — бунтуе ранак
салаўіны архірэй!
Ён мяне не растрывожыць,
хоць на час пазбавіў сну,
хай жа дні мае памножыць
на яшчэ адну вясну!
Хай спачатку залагодзіць,
схмеліць знураны пагляд
чалавеку, што не ходзіць
да мяне ажно з каляд.
Хай пасля выводзіць смела,
пошчак знізвае з крыла,—
ці то снег злятае белы,
ці чаромха зацвіла?!

# НІДЗЕ НЕ РАСТРЫВОЖУ ТАК ДУШУ

Выходжу за Маскоўскую шашу
з букетам сціплых кветак у прыполе.
Нідзе не растрывожу так душу,
як тут, на гэтым васільковым полі.

Глытаю цішу выспелых раўнін,
мне не спазнаць ніколі настальгіі,
пакуль вакол трава, як шоўк тканін,
і васількі, як неба, дарагія.

Я не патраплю ў сонечны зеніт,
але ўпаду ад шчасця на калені.
Раскалвайся, і сэрца, і граніт,
на тысячы пялёсткавых праменняў.

Апошняй песняй кветкі абдыму,
жыццё маё няроўны след пакіне.
Ніколі, поле, ты не вер таму,
хто скажа — без цябе я не загіну.

Бывае, што прызнаннямі грашу,
развітваюся без жальбы і болю.
Нідзе не растрывожу так душу,
як тут, на гэтым васільковым полі.

## ЛЕСЯ

Чаму не назвалі Алесяй?
Зайздрошчу дзяўчынцы Лесі.
Я ж родам з глыбінь Палесся,
з вёсачкі сярод лесу.

Над Балтыкай восеньскі дожджык,
над Балтыкай хмары ў зеніце.
Мой дарагі спадарожнік,
Лесяй мяне завіце.

Пясок тут пад колер бурштыну,
як на Палессіігліца.
Я край гэты хутка пакіну,
а Вам буду доўга сніцца.

Залашчаць пяшчотаю словы,
радасцю, болем прызнання,
і мне на латышскай мове
будзе нашэптваць ранне:
Леся... Алеся... Леся...

# ПАМЯЦЬ

Я помню, промні дагаралі
над чарапіцай вострых стрэшак,
лісця барвяныя каралі
на голлі кракаўскіх чарэшань.
Было трывожна, як ніколі.
Аўтобус плыў па-за мяжою...
І вербы ніцыя у полі
ледзь бачна браліся імжою...

Сяляне правілі дажынкі.
Паспешна лета дажыналі.
Мы ж пад'язджалі да Бжэзінкі [1],
інакш, на могілкі ўязджалі.
Ні агароджаю, ні колам
іх не акрэсліць, не азначыць,
баракі чорныя наўкола,
і недзе ў іх — дзіцячы мячык —
гульні няхітрае забава...
А за барачнаю сцяною
трыццатай восені атава
смыліла, дыхала вайною.

Экскурсавод:

На тым пляцу стаялі печы...

І, нібы ў хвалю ручая,
мне са смугі начной на плечы
лягло дзіцяці ручаня.

[1] Бжэзінка — былы канцлагер побач з Асвенцімам.



Лета бабіна — у пазалоце!
Ты ж пакліч мяне за ручай.
Дзве сасны там стаяць у самоце
і цвіце трава іван-чай!
Не дзівіся маёй весялосці,
гэты смех мой звініць да пары.
Над слядамі маёй маладосці
недзе плачуць зязюлі ў бары.
І вось гэтая ўсмешка не тая,
што кладзецца на твары святлом,
дзень трывожным лістком адлятае,
час няспынна махае вяслом.
Разбягаюцца шумныя хвалі,
не сабраць іх у роўную плынь.
Там, дзе вёсны мае расцвіталі,—
ранняй восені горкі палын.
Штосьці я пераблытала ў часе,
мне патрапіць бы ў іншы выток,
многа год яшчэ маю ў запасе,
ды яны, як кароткі глыток!
Вось яшчэ адно лета мінула...
Дык пакліч ты мяне за ручай,
не хачу я, каб толькі ў мінулым
расцвітала трава іван-чай.

* * *

Белая ластаўка, чорны раяль,
блізкае восені гранне.
Нітка шаўковая, тонкі паркаль,
колер тужлівы расстання.

Белая ластаўка, чорны раяль,
свету таемныя гукі:
заўтра завеі лісцвянай баль,
сёння — балююць рукі.

# Забродзе

* * *

Імжыстай восені разводдзе.
Апошняй электрычкі свіст.
Павольна кружыць над Забродзем
узняты ветрам лёгкі ліст.

Сачу з падворка за палётам.
Вось ужо бачыцца здалёк,
аціхлы, стомлены над плотам,
нібыта жоўты матылёк.

Паверыць цяжка, што асядзе,
уб'ецца ў прыдарожны пыл,
а помніцца, нядаўна ў садзе
шумеў, як пара дужых крыл...

* * *

Забродскі шлях. Нябёсаў просінь.
На ўзгорак выбегла адчайна.
Мне дзень прыдаўся незвычайным,
хоць ведала, што хутка восень.

Трава пажухлая хрумсцела,
а я вышуквала прычыны,
чаму ў акне няма мужчыны,
якога бачыць я хацела?

Над вёскай жураўлі кружылі,
быў сум прытоены ў прыродзе.
Каму з нас кветкі варажылі:
прыйшла пара забыць Заброддзе.

Я не хацела чуць пра гэта,
узгорак з лёгкасцю мінала.
Яшчэ жыла спякотай лета,
а можа, толькі ўспамінала.

* * *

Я сёння не прысела да стала.
Усё яшчэ жыву ў тваім палоне.
Я не ў радок, я ў памяць узяла
ласкавае цяпло тваёй далоні.

Пакутліва трывожна б'ецца ў скронь
бяссонніцы суровы непарадак,
мяне праз ноч вядзе твая далонь
ад ласкі да бяздоказных здагадак.

Кахання растрывожаны агонь...
Лягчэй сцярпець удар каванай
пражкай,
мяне праз дзень вядзе твая далонь,
у ноч вядзе, дзе нават дыхаць цяжка.

Дык будзь жа благаславёны за палон!
Скаруся бездакорна волі лёсу.
Начэй забродскіх ярасны агонь
кране ўспамінам голле вербалозу.

# ЛЯ ЧЫГУНАЧНАГА ПЕРАЕЗДА

Ах, як лёгка ляцелі лыжы!
Быў загадкавым пошум хвой.
Нечы шалік пушысты і рыжы
прыняла на імгненне за твой.

Трапяталі спалохана вейкі,
хоць здаваўся раўнюткім адхон,
за якім прабягалі рэйкі
невядомай тузе наўздагон.

І з прыродаю снежнаю ў згодзе,
ледзь стрымаўшы кароткі уздых,
я ўявіла на момант Заброддзе
сярод схілаў таемна крутых.

## ВЕРЛІБР, НАПІСАНЫ ПАД РАНІЦУ

Алавяны салдацік з андэрсенаўскай казкі,
калі я спакойна спала вясноваю зорнай ноччу,
неспадзявана раптоўна стаў выбіваць чачотку,
і столік пад ім хістаўся, як палуба карабля.
Ён то смяяўся, то плакаў, той прыгажун
аднаногі,
рукамі хапаў паветра і некага клікаў тужліва,
і прачыналіся людзі, прачнуўся вялікі горад,
і месяц над ім гайдаўся, як на арэлях хлапчо.
І падалі, падалі зоры, ноч перастала быць ноччу,
распаўся пакой, як атам у вопыце П'ера Кюры,
а я ляжала спакойна ў ложку сваім вясновым
і зразумела раптам, што ты — мой каханы...



Наша вуліца каруселіцца,
плошча круглая — кола мар!
Сёння вечарам тут паселіцца
Можа, Ўдовін сын, мо вядзьмар.

Я ж прыкрыюся хустай з кужалю,
пасаджу за стол месяц май,
калі Ўдовін сын, будзе суджаным,
калі іншы хто — не чапай.

А ў акно маё вецер ломіцца,—
сябра верны сцюдзёных зім,
і крычыць палахлівая горліца:
— Ўдовін сын! Васіліса пры ім!



Якая справа да пары
замглёных шыбак на дасвецці,
дзе звонкім смехам лашчыць вецце
Маленькі прынц Экзюперы?!

Якая справа мне да Вас?!
Не пазаву, не пашкадую!
Яшчэ хвіліна і... ўратую
душу сваю ў каторы раз.

Мне поруч з Вамі не ісці,
бо не ўжываецца з паклонам
каханне, што лягло праклёнам
на высмяглым маім жыцці.

Сам-насам з болем і бядой —
штукарства хітрага выснова,
не напішу Вам больш ні слова,
ідзіце ўпэўненай хадой.

Ніяк, ні зблізу, ні здаля,
Ваш голас больш я не ўспрымаю
і позіркам не абдымаю,
і не плыве з-пад ног зямля.

Адно: на Вашы ўсе гады
маладзіковаю каронай
у сэрца, нібы плач стазвона,
кідаю памяць назаўжды.

## АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА

Азвуцца хутка снегапады.
Пра іх ужо гамоняць ветры.
А мы з табой зіме не рады
у гэты вечар непрыветны.

У час апошняе сустрэчы
засланы вочы ціхім жалем,
пакутліва накрыла плечы
я пры табе пуховым шалем.

Глядзіш адчужана, злаcліва —
я для цябе ужо чужая!
На санках снежаньскіх імкліва
да нас расстанне пад'язджае.

Адводжу позірк свой маўкліва
і час зацягваю упарта!
З табою не была шчаслівай,
а без цябе і жыць не варта!

Лягла на твар разлукі боязь,
ды пагляджу ніякавата...
І пакланюся нізка ў пояс,
нібыта ў нечым вінавата.

## ПРЫ ЗНАЁМСТВЕ

Мо ад таго, што ён твой цёзка,
рукі яму не падала.
А толькі паглядзела дзёрзка
і ганарліва адышла.
А ноччу плакала ў падушку,
дзень сустракаючы раўмя,
і ён упарта мне на вушка
зноў паўтараў тваё імя.



Выпадкова машыну спыніла...
І зірнула туды з-пад рукі,
дзе фіранка пад колер чарніла,
нібы вершаў маіх радкі.
Пад нагамі патрэсквае гравій,
поўня сцеле сцяжынку-бель...
Так, напэўна,
ў чужую гавань
заплывае чужы карабель.
Так, напэўна, сыходзіць на прыстань
з трапа знуджаны морам марак,
ды святло за фіранкай празрыстай,
як падманна прызыўны маяк...

Пад акном Вашым ясень танюткі
будзе поўню гайдаць у лісці
і блакітныя кветкі анюткі
будуць сумам маім цвісці.
Будзе ясень спяваць калыханку
белай поўні пра бераг чужы,
аж пакуль не ўстрывожаць фіранку
гаманою сваёю стрыжы.
Вы адкрыйце яе, аднавесце! —
Нібы з мора ўплыве халадок,
і пранізлівы — Вашай нявесце —
карабля развітальны гудок!
Непатрэбна чужая мне прыстань!
Не прымаю яе аніяк!

За світальнаю даллю агністай
мне міргае інакшы маяк.
Там, далёка, таксама танюткі
будзе ясень ля хаты расці,
і зямлі беларускай анюткі
будуць Вамі штолета цвісці.

## ВОСЕНЬСКІ САД

Прытушыць дождж агеньчык пачуцця,
у небе жораў крыкам адзавецца,
а я спытаю,— як табе жывецца,
ці вычакаў ты долю ад жыцця?

Калыша вецер гэты ціхі сад,
паслухай толькі, музыка якая,
я не яе, каханы мой, чакала,
я думала, ты вернешся назад.

Калі ж аднойчы з'явішся сюды,
што адшукаеш тут, сярод лістоты,
ды не шукай цяпла маёй пяшчоты
там, дзе жалобы восеньскай сляды.

## БАРЫНЯ-СУДАРЫНЯ

Дыялог з народнага

— Барыня-сударыня, што глядзіш трывожна,
чаму ходзіш, барыня, асцярожна?
— Мая сукеначка дакладна скроена,
любому стрэчнаму толькі міргні!
Але якім пітвом душа напоена,
чаму гарыць яна, нібы ў агні?!
Ішла лужкамі я, ішла я сёламі,
ды толькі выпаў мне той шлях маной,
лепш і не бачыла б яго, вясёлага,
бо ён з другой стаяў, а не са мной!

— Барыня-сударыня, дзе знайсці парады?
Падказаць бы, барыня, я табе і рада...
Толькі ж вочы журацца і мае тугою,
мой таксама стаяў не са мной —
з другою!

— Што ж рабіць нам, мілая, вечар набягае...
Вунь якой шчасліваю зорка выглядае!
Хоць вазьмі ды з першым жа стрэчным
павітайся?..

— Ох, сударыня-барыня, не пытайся.

* * *

З-за саду выглянуў прамень
і скача па падушцы.
Ах, прыйдзе, прыйдзе ясны дзень
на радасць весялушцы!

А мне ні радасці, ні сну —
твой цень прыліпнуў калькай!
Мо ад таго іду ў вясну
я завадною лялькай.

Смяюся, плачу, шчабячу
на даўжыню завода...
І як пакутліва маўчу,
калі між намі згода.



Павер, каханы, я — ў даўгу!
Калі б яшчэ мацней любіла,
мяне б не так самота біла,
што нават плакаць не магу.

Не маю права на дакор,
сваім каханнем ахвярую,
і нават восені дарую
сляпое ззянне стылых зор.

Бо не спазнаць ніколі ім
кароткага кахання ўпотай,
цана якому — адзінота,
наканаваная дваім.

* * *

Той дождж у памяці...
Я зноў адчула,
як кропелька празрыстая на вуснах
дрыжыць,
а побач ты,
цяпло тваё і чуласць,
і позірк твой прывабны і спакусны.
Масква плыла...
Маланкі зіхацелі,
стаялі мы пад ненадзейным дахам,
ты памятаеш, разам мы хацелі
на момант вырвацца з натоўпу
птахам.
Масква плыла...
І мы плылі за ёю,
упершыню была я паслухмянай,
ты памятаеш, пэўна, як маёю
рукой здымаў ты кропелькі з духмянай
варшаўкі...
Ад злых людзей, ад злых вачэй хаваю
той дождж далёкі, словы, рукі, вусны,
мінула многа год, а я не забываю
прывабны позірк, сціплы і спакусны.
І тую раніцу...
Ужо свяціла сонца,
дзюймовачкай была ў тваіх далонях,
і вось плыву, плыву у іх палоне
я па ўспамінах аб табе бясконцых.

* * *

А на душы і светла, і шчымліва.
Разгубленасць спакоем наталю.
І ціхае скажу табе: «Шчасліва!»
За тое, што цябе не палюблю.

За свой спакой, за ветлівасць пагляду,
за той агонь, што сэрца не апёк,
і буду ўдзячна, можа, нават рада
твой профіль тонкі прасачыць здалёк.



Стракатасць выставачнай залы
і лесвічны пралёт круты.
Там незнарок табе сказала
нязвыклае да здзіву: «Ты».

Калі суніме вечар спёку,
аблашчыць прыцемак кусты,
як лёгка вымаўляць здалёку
знаёмае да болю: «Ты».

А ноччу чуць, як чысцяць пёркі
стрыжы пад сховай цемнаты...
Не спаць, варочацца і горка
шаптаць да рання зноўку: «Ты».

Выходзіць з дому, кутаць плечы,
збіваць расу з густой травы,
чакаць нязначнае сустрэчы,
каб вымавіць шматзначна: «Вы».



Я толькі пагляджу.
Я не скажу ні слова.
Не ў сілах папракнуць,
маўкліва адыду,
той лёс, які прыняць была гатова,
бяжыць на павуцінным паваду...
Шукаем вінаватых і ўздыхаем,
смакуем водар бесклапотных дзён,
адзін другога ў здрадзе папракаем
і адзіноту ведаем здавён.
Чакаем навальніцы,
ветру,
грому,
маланку просім вузел рассячы,
вяртаемся дамоў —
халодна ў нашым доме,
мы апускаем вочы і маўчым.



У цябе, любы мой,— карабель,
у мяне — толькі лодачка.
У тваёй кішэні — рубель,
у маёй — капеечка-плотачка.
Ты ўзнімаеш ветразі і плывеш,
я ж на беразе, разам з лодачкай,
ты з рублём сваім так жывеш,
што аж горка мне з маёй плотачкай.
Ты на палубе — каралём,
я на беразе — каралеваю,
не з табой стаю, а з вяслом,
ўся прамоклая пад залеваю.
Жнівень кужаль тчэ, залаты сувой
ды вясельную нам іграе...
І таму цяжэй думаць нам з табой,
што вяселле мы не згуляем.
Бо ў цябе, любы мой,— карабель,
у мяне — толькі лодачка,
у тваёй кішэні — рубель,
у маёй — капеечка-плотачка.

## ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

А на стале маім ляўкоі,
і лёгка мне ўдыхаць азон.
Дарма казаў ты, што ніколі
не вернешся пад мой балкон.
У міг адзін раскрыю дзверы,
зірну на мокры парапет,
туман разрэджаны над скверам,
нібы дымок ад цыгарэт...
Як памяць сэрца заказыча!
Кране тугой вільготнасць дрэў...

Замест цябе з прысад пакліча
самоты квят — ільвіны зеў.

## ЗОРКА ПАЛЯВАЯ

Ах, не трывожце, сэрцу так балюча!
Ах, не прыходзьце прывідам у сны!
Я пабягу дарогаю гаючай
без Вас у далеч бэзавай вясны.

Я пабягу, шукаючы прытулак
няздзейсненым жаданням у гаі,
ад мітусні, ад звону шумных вулак,
туды, дзе ноч калышуць салаўі.

Калі ж узыдзе поўня караваем,—
пазбавіць сэрца смутку і нуды!
У ім пакіне зорка палявая
свайго святла гарачыя сляды.

Ласкава буду зваць яе сястрыцай,
ў начное неба кіньце свой пагляд...
Магчыма, зорка весняя іскрыцца,
а можа, я плыву за далягляд!

# НЕЧАКАНЫЯ ГОСЦІ

Завіталі апоўначы з шумам, са смехам.
Ты шапнуў мне з парога вінавата: «Прабач!»
Для цябе гэта ноч, не інакш, як пацеха,
Для мяне — развітання нябачны трубач.
Ён іграе, іграе... Студзяць гукі далоні,
і адводзіш ты позірк, не глядзіш на мяне,
толькі госця адна ў палахлівым палоне
з-пад брывоў сваіх тонкіх асцярожна зірне.
Ды хіба ёй магчыма гэтым часам не раннім
разгадаць нашу тайну, зазірнуць у душу,
супыніся, трубач, не іграй развітанне,
а сыграй нам сустрэчу, я вельмі прашу.
Весяліцеся, госці, памяць шчодра частуе,
і пласцінка, як здрада, чорным кругам мільгне.
Ну, няўжо мяне ўсмешка мая не ўратуе,
ну, няўжо маё сэрца мацней за мяне?!
Весяліцеся, госці, ў гэтым доме не плачуць,
тут з пласцінкі сыходзяць весялосці кругі...
Я хвіліну расстання гэтай ноччу адзначу
самай звонкаю песняй без ценю тугі...



Гронак рабінавых медзь
разлуку сыграла мне.
Плюшам падбіты мядзведзь,
быццам жывы, уздыхне:

— Ты супакойся, не плач...
Суму не варты твой госць,
вер мне, ягоны плашч
заменіць табе мая поўсць.
Рыжы ўскудлачаны плюш
намнога цяплей за балонь,
а хочаш, куплю капялюш —
і буду зусім як ён.
Мне ты не скажаш: «Прыедзь!»
Буду я побач заўжды,
плюшам падбіты мядзведзь,
цябе ахіляць ад бяды.
Буду зімой частаваць
мёдам з запасаў сваіх,
будзем з табою спяваць
добрыя песні ўдваіх...



Вось цяпер я, напэўна, забуду
заімшэлы разбураны млын.
І гуллівую ў пене запруду,
і някошаны горкі палын.

Нехта скажа: кароткая памяць,
дамагалася ж як у жыцця!..
Не судзіце ацїхлую замець
перайшоўшага ў боль пачуцця.



Выпадкова, без пэўнай прычыны,
спачувальна і не без ласкі,
мне сказала твая жанчына:
— Вы, як ліска з японскай казкі.
Муж чытаў мне яе няспешна,
надта ж простая тая навука:
за празмерна салодкай усмешкай
не інакш як сардэчная мука.

Я нічога ў адказ не сказала,
ды тужэй зацягнула пасак...
Там, табою забыты ў зале,
ляжыць томік японскіх казак.



Не тое гора, што гарчыць.
Бяда з нягодамі сплывае.
З гадамі вывучуся жыць,
бо сталасць роздум набывае.

Вяртанняў болей не хачу!
У адзіноце — кожны горды!
Дык хай жа ёю заплачу
за гэты крык, застраглы ў горле.
За гэты згустак крыўд і здрад,
за боль, якому ў сэрцы цесна,
за першай ночы зарапад
і вір бяссонніцы балеснай.

Спяшайся без мяне ў вясну.
Зрывай з рабін вясёлых гронкі.
Я асцярожна загарну
табой пачатыя старонкі.

* * *

З табой даўно не гаманілі,
а рэха голасу плыло
з велікарускае раўніны
у беларускае сяло.

То адзывалася праклёнам,
то пераходзіла ва ўсхліп,
перагаворвалася з клёнам
і аціхала ў ценю ліп.

А я ваколіцу мінала
на схіле гаманкога дня,
сунічнай брагай сустракала
мяне шчаслівая радня.

Пасля гарэла, як трохкутнік,
сузор'е пад акном маім,
і штось ласкавае трыпутнік
шаптаў мне голасам тваім.

* * *

Я лепей музыцы паверу,
верш пра расстанне напішу
і незнаёмаму даверу
сваю мяцежную душу.
Зязюляй шэрай закуваю,
збягу ў дрымучы лес густы
і там уголас заспяваю
аб тым, як моцна любіш ты!

Я лепей ветразем заб'юся,
маланкай неба рассяку,
ракой шырокай разальюся,
вясёлым зернем па таку.
Я нават, любы, не заплачу,
ліста табе не адашлю...

Любоў мая так мала значыць,
супроць таго, як я люблю.

* * *

Прастора спазнаецца ў руху...
А як спазнаць цябе цяпер,
калі пакінуў толькі скруху,
і сэрцу, і душы — знявер!

Няўжо замкнёна моцна кола?
Я ж ганарліваю была...
Сляды, твае сляды наўкола,
завея іх не замяла.

А ты прыйдзі, яшчэ не позна,
ты перадумай, пазвані!
О, як натхнёна і высозна
гарэць надзей маіх агні.

# РАБІНАВАЯ НОЧ

. . . . . . . . . . . .

Зліваліся рукі ў бяссіллі,
выразней не знойдзеш здымкаў!
А як жа вусны прасілі
мацнейшага з моцных абдымкаў.
А як жа вусны шапталі,
такое гаворадь аднойчы,
мы ў бераг мокры ўтапталі
юначай цнатлівасці вочы.
І білася хваля аб хвалю,
пакуль зіхацелі зоры,
і пругкія грудзі хавалі
тых пацалункаў узоры.
Два целы ў салодкай стоме
болем акропваў золак,
выглянуў першы промень,—
здавалася, безліч іголак
рассыпала полымя страсці...
Такое бывае аднойчы,
а мне яшчэ б раз упасці
у жвір той гарачай ночы.

# Двое на зямлі

Паэма

> Ды таямніцы маладой прычасце
> Рассеялася ў золку залатым.
> І сустракалі раніцай мы шчасце —
> Дым.
>
> *Сцяпан Гаўрусёў*

1

## З ЗАБЫТАГА СШЫТКА

А мне быў сон...
Як расказаць?
Як на паперы перадаць?!
Мне ён цяпер не па плячы,
хоць вобзем бiся, хоць крычы —
вяртае памяць зноў і зноў
да тых даўно забытых слоў,
да тых начэй, у белы сад,
навошта мне туды назад?..

У той куток, у той язмін,
зглынуўшы дзён сваіх палын,
вярнуцца, сесці на краёк
самотнай лаўкі і здалёк
раскласці дзеі, дні, часы,
і слухаць, слухаць галасы,
што ўжо ў нябыце...
Адышлі
з расой па высмяглай зямлі.

Навошта той кругазварот?
О, колькі вёснаў ля варот

маіх з часоў тых адцвіло,
а колькі зімак адгуло!
О, верце, людзі, з тых часоў
не шыла я сабе абноў,
з сабачай вернасцю ў вачах
на попел дзьмула, ды ачах
непадуладны мне агонь,
і адзінота — на далонь,
як непазбежнасць, як прысуд
крычала: тут!
Я тут!
Я тут!

І ўсё ж быў сон...
Я не зманю,
калі скажу —
быў сон з агню!
Агонь шумеў, паліў мяне,
было ж звычайна ўсё, о не!..
Звычайна там, за садам тым...
Курыўся вечаровы дым
з туману,
шоргату,
з расы...
Нібыта пад лязом касы
хвіліны падалі...
І вось —
зямная падалася вось...
Быў асцярожны ў дзверы стук,
і ўзнагародай — поціск рук
мне за чаканне ўсіх гадоў,
якія б кожны быў гатоў
аддаць за найсаладшы міг:
ты і каханы — удваіх!

Спачатку рознае...
Цыклон
з суровай Балтыкі паклон

нясе да нас і зададжджыць,
туманам горад заімжыць.
Пасля пра цэны спакваля,
і вось
пра локан мой здаля,
пра вусны і ружовасць шчок,
нарэшце, начніка шчаўчок...

— О, не цяпер. Хадзем у сад,
там сярод стоеных прысад
блукае поўня, нібы лунь,
і аксамітам вабіць рунь
травы някошанай, густой...
Хадзем туды, у травастой!

Не выдасць ноч і не адна,
як гаварылі да відна!
Нясла мурожны смутак кос
яму, нібыта першы ўкос
бацькоўскай струджанай рукі,
і вочы,
        быццам васількі,
мае парою той цвілі,
дзе гнёзды ластаўкі вілі.
Дзе басаногая дзятва
у час гарачага жніва
збірала ў полі каласкі...
Усё нясла!
Закон такі —
не пакідаць нішто ў душы,
жыццё сваё разварушы
і ўсё аддай —
свой першы май,
сваю пяшчоту і цяпло,
і поўні белае святло...
Усё нясі!
І я нясла.

Нібыта пырскі з-пад вясла,
прад ім ляцелі
дні,
гады,
дзе ў кожным з іх —
мае сляды!

Мінала лета.
Чэзнуў сад.
Лісця барвянага каскад
нам развітанне прадракаў.
Хто хоць аднойчы не спазнаў,
мне не паверыць, а віной
было пісьмо рукі чужой.
Самотны плён чужых начэй,
дзе словы —
боль другіх вачэй...
І там
таксама чэзнуў сад,
маліў,
прасіў аддаць назад,
вярнуць яго, бо ён не мой,
бо ён заручаны з другой.

І зноў пра рознае...
Цыклон
з суровай Балтыкі паклон
прынёс да нас, і вось дажджы,
і мы не ў садзе —
на мяжы!
Куды цяпер?
Які прысуд?
О, як няўтульна стала тут!
А там?
Што будзе за мяжой,
за тым дажджом,
за той імжой?!

Стаялі моўчкі...
— Што ж, бывай.
І мне ў адказ:
— Не забывай...
— Ты чуеш, дождж адтуль пяе.
Ідзі, каханы, да яе...

2

## ВЯРТАННЕ ДА РАНЕЙ НАПІСАНАГА

Няўжо быў сон?!
Мо забыццё?
Штодзённай думкі адкрыццё?
Жывая памяць аб табе
ні дня спакою не дае!
Шукаю твой у садзе след,
цябе чакаю на абед,
навошта ж ліпы у смузе,
нібы за шчасцем у чарзе?
Навошта ж наш гасцінны двор
так рана скінуў свой убор?
Дзе лісця залатога звон,
дзе неба зорны парасон?

Не, не адкажа лістапад,
адзін хіба што зарапад
падкажа на зыходзе дня,
дзе зорка сталелая мая.
Яшчэ далёка да відна,
а ўжо на шкло майго акна
той зоркі цьмянае святло
няспетай песняю лягло!
Раптоўна захлынуўся гук
ласкавае пяшчоты рук.
Музыка, што ж ты, пачакай,
не адступай, іграй, іграй...
Музыка —

спадарожнік мой!
Ты долі родны брат маёй,
майго жыцця шчаслівы лёс
і сведка горкіх маіх слёз.
Музыка, ты ўяўленне мар,
блукаеш недзе сярод хмар,
дык напаі ж мяне вадой
з крыніцы вечнасці святой.
Не з той прычыны, каб імя
маё свяцілася штодня.
А з той прычыны, каб штодня
яго свяцілася імя!
Каб там у нейкі соты век
далёкай эры чалавек
пачуў, як вымаўляю я
адно імя —
яго імя!

3

АДНОЎЛЕНЫ ЗАПІС

Мігціць «паўторнае кіно».
Якое светлае яно!
І нейкі ветрагон-дзівак
для недаўмекаў-разявак
экран агромністы стварыў.
Пракручваецца фільм стары.

Стары. Стары.
У ладкі пляшчуць ліхтары.
Стары. Стары.
Гудуць у комінах вятры.

Ну, як не затрымацца тут!
Ах, што за дзівы,
што за цуд —
я нечакана пазнаю
і сад, і вуліцу сваю.

Вясёлкай свеціцца экран.
Вось толькі...
Не ўвайсці б у зман!
Ды мне, як самы лепшы гід,
здаўна знаёмы краявід.

Дзве постаці ўдалечыні.
Не бойся, сэрца, адчыні
пяшчоты жыццятворны міг.
Экран! Не зацямняй жа іх!

Ты... Ты...
Нясу праз доўгія гады
я прад сабою вобраз твой...
Ты — мой!
Ты — пабач!
Ты — са мной!

Ты... Ты...
Прымаюць рэха гарады,
эфір, запоўнены табой,
шуміць, як пеністы прыбой!

А на экране той жа сад,
за кадрам — шолахі прысад,
азёрнай хвалі пераліў,
перабалелых дзён наплыў...

* * *

Шэрая матульчына зязюля
з простае работы палатна
прыляцела, жалем агарнула,
закувала на зыходзе дня.

Маці ў маладосці вышывала
на прасцінцы беленькай маёй,
квеценным узорам аздабляла,
каб спакойней спалася на ёй.

Ты кувай, кувай, мая зязюля,
абуджай самотную душу,
як жа ты, харошая, адчула,—
я кування звонкага прашу!

* * *

Песні... Песні...
Улівайцеся ў сэрца,
і трывожце, і плачце!
Песні... Песні...
Ветразь ружовы на мачце
самай глыбокай думкі,
споведзі самай чыстай,
самай высокай любві...

* * *

Вось яблынька!
Ах, дарагая!
Усё шуміш,
усё такая ж!
Сцяжынка у знаёмы лес,
а там, ля плота, рос агрэст,
і мальва пад акном цвіла...
Калісьці там і я жыла!

* * *

Вяртанне ў былое,
ў былыя хвіліны,
падзялюся я болем
са старонкаю мілай.
Далягляд, як далоня
працавітай жанчыны,
вось і зноў я ў палоне,
у палоне Айчыны!

Разбяжыцеся, далі,
расступіцеся, вёсны,
тут суседкі дзесь жалі,
недзе ладзілі кросны.
Дуб асмалкам чарнее,
памяць літасці просіць,
сорак першы шалее,
засціць раніцы просінь.
На світанні вясновым,
калі соладка спіцца,
цені ў касках сталёвых
падыходзяць напіцца
да крыніцы сцюдзёнай,
да хаціны пагрэцца,
цені з зоркай чырвонай,
з перамогаю ў сэрцах!
Іх бяда абмінае,
травы лашчаць спрасоння,
а любоў іх лунае
у прасторы бяздоння
да радзімы, да сцежкі,
што чаборам абвіта,
да дзіцячай усмешкі,
да расянага жыта.
А любоў іх, як песня,
абарваная куляй,
цені, цені, мне цесна
нават побач з матуляй.
У палях вас гукаю
з вашай сонечнай мары
і ў пясчынках шукаю
вашы светлыя твары...

Кадр за кадрам прадзецца,
цень ляжыць на экране,
ён на сэрца кладзецца
незагоенай ранай...

* * *

Дарога
ліхтаровым святлом
б'е у вочы!
Праменная сонечнасць рання,
нібы позірк дзявочы,
раскрываецца да кахання...

* * *

Страпянуся, нібыта ад болю...
Хто я, што я на гэтым свеце?!
Можа, заўтра раскінуся полем,
можа, ветрам, а можа, вецем,
ці лясною бруістай крыніцай,
да якой прыпадаю напіцца,
можа, песняю стану сваёю?!.
Адным словам — зямлёю...
Той адною,
дзе шумяць лясы,
дзе жывуць сябры,
дзе кахаюць,
дзяцей нараджаюць,
лісцем ападаюць,
зернем прарастаюць...

* * *

Сярод жытоў, сярод лясоў,
сярод знаёмых і сяброў
не звычай, не падман жыцця —
гарачы подых пачуцця!
Іду ў жыты, іду ў лясы
паслухаць птушак галасы,
але чаму не чую я
вясёлай песні салаўя?

Чаму, чаму маўчыць пяюн,
тады, як птушка Гамаюн
перабірае срэбра кос,
і мараю сячэ наўскос,
і абуджае мае сны,
з гадоў далёкіх даўніны
мяне ў мінулае заве,
туды, дзе вобраз твой жыве.
Дзе ззяе сумны Казярог,
як скрыжаванне дзвюх дарог,
кахання нашага святло
сузор'ем квеценным лягло.
Я верыць здрадзе не хачу!
Стрымаю боль, перамаўчу,
у нетрах золкай пустаты
гаючае шукаю: «Ты!»

Насупілася штосьці зіма.
Як зразумець — цяпла няма!
У стыні засмучоных дзён
твой цень праменісты відзён.
І песні сыну я пяю,
і за дваіх з ім гаманю,
і не смяюся — рагачу,
пяшчотай за дваіх плачу...

* * *

Паміраюць птушкі, паміраюць.
Іх жыццё не часам вымяраюць,
вымяраюць самай звонкай песняй,
той, што і ў Сусвеце нават цесна.

Паміраюць дрэвы, паміраюць,
іх жыццё не лісцем вымяраюць,
вымяраюць плодам сакавітым,
цішынёю ранішняй спавітым.

Паміраюць людзі, паміраюць,
іх жыццё жыццём і вымяраюць,
на сумленне душы правяраюць,
рэжуць праўды чэрствае акраец...

* * *

Прымала сваё першае прычасце —
зарою разгаралася акно!
Мне выпадала надта многа шчасця,
а выпала — урэшце, не яно!

Прыму сваё апошняе прычасце!
Не папрашу спагады у жыцця,
травой праб'ецца промень
майго шчасця,
закрэсленага лёсам пачуцця!

* * *

Сярод сузор'яў, сярод зор
кладзецца песенны узор...
І сярод гукаў, сярод сноў
таемнай згадкай золкіх сноў
мая дарога пралягла —
маланкі вогненнай страла.
Няхай жа ў стомленай цішы
ірвецца плач з маёй душы,
я веру запаветным дням,
як верыць ноч сваім агням:
у іх праменнасці відзён
прастор неперажытых дзён.
Я веру сонечнаму: «Мы»,
як вераць вулкі і дамы,
што некалі ў разгар зімы
абудзяць сонныя гаі
майго кахання салаўі.

# ЗМЕСТ

## * 1 *

## * 2 *



## * 3 *

**Баравікова Р.**

Б 24 Слухаю сэрца. Вершы і паэма. Мн., «Маст. літ.», 1978.

96 с. з іл.

«Слухаю сэрца» — другая кніга паэзіі Раісы Баравіковай. У зборнік увайшлі вершы і паэма, напісаныя за апошнія некалькі гадоў.

Паэтэса імкнецца раскрыць духоўны свет маладога сучасніка — неспакойнага творцы сённяшніх і будучых дзён.

Б $\frac{70403\text{-}032}{М\ 302(05)\text{-}78}$ 41-78 Бел 2

Раиса Андреевна Боровикова

*Слушаю сердце*

На белорусском языке

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак М. М. Селяшчук. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 222

АТ 09544. Здадзена ў набор 7/VI 1977 г. Падп. да друку 18/I 1978 г. Тыраж 4000 экз. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 3,51. Ул.-выд. арк. 3,04. Зак. 372. Цана 35 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.